# ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы


*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● **Заснавана ў 1991 годзе** ● **№ 46 (127)** **Чацвер, 16 лістапада 2000 г.** **У розніцу кошт свабодны**


## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### ЯКІЯ Ў КАГО ДАХОДЫ?

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, грашовыя даходы насельніцтва ў параўнанні з леташнімі павялічыліся ў 3,5 раза. А калі ўлічыць рост цэн за гэты час? Тады, аказваецца, рэальны рост даходаў складае ўсяго 15 працэнтаў. Самыя большыя месячныя даходы ў верасні сёлета былі ў работнікаў сістэмы страхавання — 128,3 тысячы рублёў. Першынство ім уступілі на гэты раз работнікі банкаў. Але і яны не ў накладзе, іх даходы за месяц — 121 тысяча рублёў. Верасянёўская зарплата ў работнікаў гандлю і грамадскага харчавання склала 54,7 тысячы рублёў, жыллёва-камунальнай гаспадаркі — 65,1 тыс., кіравання — 68,1 тыс., сувязі — 77,4 тыс., транспарту — 78,3 тыс., прамысловасці — 82,1 тыс., навукі і навуковага абслугоўвання — 82,8 тыс., будаўніцтва — 92,4 тыс., лясной гаспадаркі — 50 тыс., фізкультуры і спорту — 48,2 тыс., адукацыі — 44 тыс., аховы здароўя — 43,2 тыс., сельскай гаспадаркі — 41,4 тыс., культуры — 38,8 тыс., мастацтва — 39,4 тыс., сацыяльнага забеспячэння — 28,5 тыс.

Вось і паглядзіце, як "Бог не роўна дзеліць". Хто больш за ўсіх "гарбаціцца" на працы, той менш зарабляе. У нашай дзяржаве аплата працы робіцца па прынцыпу: калі ты з раніцы да вечара кожны дзень на працы — навошта табе многа грошай? Табе ж іх некалі траціць. А вось калі ты ў рабочы час можаш шнырыць па магазінах, кафэ ды рэстаранах, з прыгожымі жанчынамі на прыроду выязджаць — табе вельмі многа грошай трэба! З гэтай нагоды хто-кольвечы тут і Шэкспіра ўспомніць: "Няладна нешта ў Дацкай дзяржаве!"

### МЫ ЎСЕ ВУЧЫЛІСЯ ПАКРЫХУ...

Узровень адукацыі жыхароў Беларусі расце на працягу ўсяго XX стагоддзя. У 1959 годзе толькі 33 працэнты беларусаў ва ўзросце старэй 15 год мелі вышэйшую і сярэднюю адукацыі. У 1970 годзе такіх людзей было ўжо 50%, у 1979 — 65, 1989 — 77 і ў 1999 — 85%.

Павялічылася і доля асоб з вышэйшай адукацыяй з 1,7 ў 1959 годзе да 14% у 1999 г.

Па колькасці адукаваных людзей горад абганяе вёску, аднак па тэмпах росту адукаванасці вёска яўна апярэджвае горад.

Узровень адукаванасці жанчын пакуль ніжэйшы, чым мужчын. 819 адукаваных грамадзянак супраць 891 грамадзяніна на 1000 асоб адпаведнага полу.

### ЦЁТКА ХАЙ ПАЧАКАЕ

Жуллё з Брэста купляе газеты з аб'явамі аб продажу рэчаў і бытавой тэхнікі. Выбіраюць коштам прыкладна 20-30 долараў і накіроўваюцца на кватэры да прадаўцоў. Купляюць рэч і разлічваюцца 100-даларавымі купюрамі. Ну і, канешне, атрымліваюць здачу альбо доларамі, альбо беларускімі грашамі па банкаўскаму абменнаму курсу. Працэс куплі-продажу праходзіць у дружалюбнай абстаноўцы, пры задушэўнай гутарцы, але пакупнікі звычайна спяшаюцца: або ў іх хутка цягнік, альбо цётка чакае ў госці...

Калі ж гаспадары агледзяцца, аказваецца — ім усучылі фальшывыя долары!

Таму адзіны спосаб не аказацца падманутым — не спяшацца з разлікамі. "Цётка" хай пачакае... вы лепш схадзіце з пакупнікамі ў бліжэйшы абменны пункт і праверце валюту, што вам даюць, ці, гледзячы па абставінах, паведаміце ў міліцыю.

### ЗНОЎ ПАДАРАЖЭЛА ПАЛІВА

У Беларусі зноў павялічыліся цэны на маторнае паліва. На прадпрыемствах дзяржаўнага канцэрна "Белнафтахім", напрыклад, 1 л бензіну А-76 цяпер каштуе 445 рублёў, А-92 — 564, АІ-95 — 646 рублёў. Літр дызельнага паліва — 411 рублёў.

### ШКОЛЬНІКІ ПАГРАЖАЛІ БАЦЬКУ ЗАБОЙСТВАМ ДАЧКІ

Непрыемныя хвіліны прыйшлося перажыць жыхару Гродна, якога паспрабавалі запужаць невядомыя. Яны шантажыравалі мужчыну тым, што заб'юць яго 14-гадовую дачку, калі бацька не выплаціць ім грошай. За жыццё яго дзіцяці яны запатрабавалі 5 тысяч долараў. Гродзенец звярнуўся на дапамогу ў праваахоўныя органы, і вымагальнікамі занялася міліцыя. А ў хуткім часе паблізу магазіна "Цэнтральны" пры перадачы грошай злачынцы былі затрыманы міліцыяй. Вымагальнікамі аказаліся вучні 9-11 класаў са Слоніма. Супраць іх узбуджана крымінальная справа.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### НА ВЁСЦЫ КЛОПАТАЎ БАГАТА

Адправіўшы механізатараў у поле, загадчык майстэрні Віктар Панасенка і брыгадзір трактарнай брыгады Анатоль Асмалоўскі расказалі пра восеньскія клопаты хлебаробаў племсаўгаса "Высакоўскі", што ў Клімавіцкім раёне.

Зернеўборачныя камбайны тут даўно ўжо пастаўлены на зімовае захоўванне. Два "Доны" дастаўлены ў майстэрні райаграпрамтэхзабеспячэння на складаны рамонт, а яшчэ два камбайны ўбіраюць канюшыну на насенне. На іх працавалі камбайнёры Уладзімір Жарыкаў і Іван Дабродзькін. На падрыхтоўцы да рамонту астатняй тэхнікі былі заняты трактарыст (ён жа і слесар) Аляксандр Харытонаў, зваршчык Алег Раманоўскі і іншыя рамонтнікі.

У саўгасе на дастаўцы зялёнай масы на фермы ЬРЖ задзейнічаны на трактары МТЗ-82 механізатар Віталь Папялышка, а на абслугоўванні свінафермы Уладзімір Серакоў. Як бачна, на вёсцы і зараз клопатаў багата.

**Іван ЛАПО.**

### ПАРТЫІ ПРАЙГРАЛІ ВЫБАРЫ

Палітычныя партыі атрымалі мінімум месцаў у парламенце, і, можна сказаць, прайгралі выбары таму, што забыліся пра надзённыя праблемы простых людзей. Пра гэта заявіў у інтэрв'ю "Інтэрфаксу" памочнік прэзідэнта Беларусі Сяргей Посахаў.

"Людзей больш хвалююць не партыі да Выбарчага Кодэкса, а канкрэтныя праблемы — пенсіі, жыллё, зямельная рэформа, зарплата, экалогія. Аднак ніводная партыя не рабіла на гэтым акцэнт", — сказаў Посахаў.

Галоўнымі памылкамі партый у перадвыбарчай кампаніі была адсутнасць пазітыўнай праграмы і вяласць палітычнай барацьбы. "За ўладу трэба змагацца ў розумах выбаршчыкаў," — заявіў Посахаў.

**Інтэрфакс.**



*Восень — час кірмашоў.*

**Фотаэцюд Івана ЛАПО.**

*АБ'ЯВА*

## ПАДПІСКА-2001, І-е ПАЎГОДДЗЕ

*Выпісвайце "Беларускі Усход"!*

***Калі "Беларускі Усход" у вашым доме,***
***Дык вам пра многае вядома:***
***Як гатаваць, як пекчы здобы,***
***І як лячыцца ад хваробы***
***Без усялякіх там таблетак,***
***Сабраўшы траў, карэнняў, кветак...***
***Чытайце "Беларускі Усход"***
***І пражывеце ўсе сто год.***
***Выконвайце ўсе парады,***
***І будзеце жыццю вы рады!***

**Падпісацца на "Беларускі Усход" можна ў любым паштовым аддзяленні сувязі на Беларусі. І ў вёсцы, і ў горадзе.**

**Падпіска на першае паўгоддзе 2001 года працягнецца да 20 снежня 2000 года. Не адкладвайце падпіску на апошнія дні. Спяшайцеся на пошту ці звяртайцеся да свайго паштальёна і афармляйце падпіску. "Беларускі Усход" можна выпісаць на любы тэрмін І паўгоддзя: на 1 месяц, на 2, 3 і да 6 месяцаў. Як вам дазваляюць сродкі. Кошт падпіскі:**

**для індывідуальных падпісчыкаў:**
**на 1 месяц — 279 рублёў,**
**на 2 месяцы — 558 рублёў,**
**на 3 месяцы — 837 рублёў,**
**на 6 месяцаў — 1674 рублі;**

**для ведамаснай падпіскі (арганізацыям, прадпрыемствам, установам):**
**на 1 месяц — 421 рубель,**
**на 2 месяцы — 842 рублі,**
**на 3 месяцы — 1263 рублі,**
**на 6 месяцаў — 2526 рублёў.**

**Да 25 лістапада можна яшчэ падпісацца і на снежань гэтага года. Кошт падпіскі на снежань 2000 года для індывідуальных падпісчыкаў — 188 рублёў.**

**Заставайцеся з "Беларускім Усходам"!**

● *Адукацыя*

## Настаўнікі маюць намер патрабаваць павышэння заробкаў

**Як нам стала вядома, работнікі адукацыі і навукі краіны пачалі збор подпісаў пад зваротам да Савета Міністраў і Адміністрацыі прэзідэнта з заклікам тэрмінова прыняць меры па паляпшэнню сітуацыі з аплатай працы ў галіне.**

Па словах старшыні рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамары Чобатавай, згодна з афіцыйнымі данымі статыстыкі, у жніўні паказчыкі аплаты працы па галіне не перавышалі памеру мінімальнага спажывецкага бюджэту і адпавядалі толькі 46 працэнтам сярэдняга заробку ў прамысловасці.

Прычым, з улікам росту цэн на тавары і паслугі, гэты малюнак істотна не зменіцца і пасля кастрычніцкага павышэння "мінімалкі" і тарыфнай стаўкі І разраду.

У прыватнасці, па ацэнках прафсаюза, за рысай МСБ па-ранейшаму будуць знаходзіцца большасць выхавацеляў дзіцячых садкоў, настаўнікаў пачатковых класаў, маладых спецыялістаў, а таксама ўсе тэхнічныя работнікі, налічаныя заробкі якіх, згодна з папярэднімі разлікамі, з усімі даплатамі складаюць зараз усяго каля 18 тысяч рублёў.

Тым часам, зазначыла Т.Чобатава, даводзіцца канстатаваць, што папярэднія абяцанні аб увядзенні дыферэнцыраваных каэфіцыентаў павышэння акладаў і тарыфных ставак работнікам сістэмы адукацыі ў памеры 1,4, павелічэнні грашовых сродкаў, якія накіроўваюцца на прэміраванне работнікаў, з 20 да 30 працэнтаў ад планавага фонду зарплаты, устанаўленні дадатковай аплаты за асобныя віды работ (праверка сшыткаў, класнае кіраўніцтва і г.д.) у працэнтах да стаўкі зарплаты, а таксама павышэнні на 20 працэнтаў зарплаты маладым спецыялістам, выпускнікам вышэйшых і сярэдніх сацыяльных навучальных устаноў па сутнасці дагэтуль не выкана081ны.

**Сяргей ГРЫБ.**

